№ 1 (3). Пятніца 2-га Сакавіка 1928 г. м. Вільня Год II.

# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

Пярыядычная часопісь па самаўрадавым справам нашага краю.

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: WILNO, Zawalna 6 — 4. Тэлеф. 14-35.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: За 3 месяцы . . . . . 2 зл. 1 нумар . . . . . . 50 гр.

АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ.

## САМАЎРАДЫ і ВЫБАРЫ.

За некалькі дзён маюць адбыцца ў Польшчы выбары ў заканадаўчыя палаты. Парлямэнцкія выбары наагул зьяўляюцца вельмі важным здарэньнем у кожным краі, а асабліва ў **рэспубліцы.**

Арт. 2. Польскай Канстытуцыі кажа, што **„Вярхоўная Улада у Польскай Рэспубліцы належыць да народу, а органамі народу — у галіне законадаўства — ёсьць Сойм і Сэнат“...**

Але апрача такой ўлады заканадаўчых палатаў наагул, наступны Сойм мае яшчэ зусім асаблівую ўладу і важнасьць, якія робяць бягучыя выбары запраўды-ж у найвялікшай меры паважнымі і адказнымі.

Новы Сойм будзе мець — наводле Канстытуцыі (§ 125 выд. 1921 г.) такія асаблівыя правы, якія Польскі Сойм будзе мець толькі аднойчы кожныя 25 гадоў: выбіраны цяпер Сойм мае права „ўласнай пастановай большасьці толькі трох пятых частак галасоў і прысутнасьці ня менш, як паловы ўсяго ліку паслоў, без згоды Сэнату“ — даканаць грунтоўнай зьмены Канстытуцыі.

Вось дзеля чаго сучасныя выбары вымагаюць асаблівай ўважнасьці і развагі.

Бо-ж якраз усімі палітычнымі коламі Польшчы высоўваецца, як галоўная задача сучаснасьці, **зьмена дзяржаўнага ладу, ці грунтоўны перагляд Польскай Канстытуцыі ў найважнейшай галіне:** у справе ўзаемных адносінаў законадаўчай і выканаўчай ўладаў Рэспублікі. Мы ня будзем тутака ўваходзіць падрабязна ў сутнасьць спораў і спрэчак паміж рожнымі кірункамі польскай палітычнай думкі, аб тым, у якім кірунку павінна адбыцца гэта зьмена Канстытуцыі. Укажам толькі на прыклад таго, якой важнасьці пры гэтым выплываюць справы і задачы. У праграме перагляду Канстытуцыі, якую вырашыць прышлы Сойм, стаіць паміж іншым і справа аб парадку выбару Прэзыдэнта Рэспублікі. Каб даць магчымасьць усім зразумець важнасьць гэтай справы, укажам, што паводле істнуючага цяпер парадку Прэзыдэнт Польскай Рэспублікі выбіраецца абедзьвюма злучанымі палатамі парлямэнту (Соймам і Сэнатам) Гэтым парадкам прэзыдэнт згары ставіцца у залежнасьць ад парлямэнту. Між галавой дзяржавы і народам заўсёды стаіць парлямэнт, які з свайго боку цалком залежыць ад партыяў. Добра, калі гэтыя партыі запраўды выражаюць волю народу, тады парлямэнт зьяўляецца запраўдным народным прадстаўніцтвам. Але калі гэтага няма, калі на выбарах нясьведамы народ быў ашуканы усялякімі палітыканамі ды афэрыстамі, тады на 5 гадоў край пападае у няволю апошніх, і найлепшы прэзыдэнт пры найшчырэйшых жаданьнях бязсільны што небудзь зрабіць...

Самаўрады — апалітычныя, пераважна гаспадарчыя ды грамадзка-адміністрацыйныя ўстановы. Дык як гэткія, самаўрады паклі-каны заканадаўцам Рэспублікі да ўдзелу ў тэхнічнай арганізацыі выбараў, якія паводле Канстытуцыі аддадзены ў рукі спэцыяльна арганізаваным грамадзка-судовым установам (выбарным камісіям), якім адміністрацыйная ўлада толькі дапамагае ў іх чыннасьцях.

Самаўрады выпаўнілі ўжо ўсю даручаную ім законам п а д р ы х т а в а ў ч у ю працу ў зьвязку з выбарамі. Але-ж гэтыя апалітычныя самаўрады складаюцца з палітычна-ўпраўненых грамадзян, якія маюць грамадзкі абавязак сумленна і паважна, згодна з высьветленай вышэй асаблівай важнасьцяй цяперашніх выбараў, прычыніцца да стварэньня **найлепшага складу прышлага парлямэнту.** І нам здаецца, што ў гэтай важнай задачы дзеячы самаўрадаў, як выбранцы мясцовага насяленьніцтва, маючыя да сябе даверра грамадзянства, могуць і павінны сыграць вельмі важную ролю дзеля выбараў ў парлямэнт. Так запраўды і бывае у краёх эканамічна і палітычна ўпарадкаваных, асабліва-ж там, дзе шырока і глыбока пусьцілі карэні у зямлю на мясцох самаўрадавыя ўстановы, як напрыклад у Англіі, дзе выбары ў парлямэнт амаль не цалком залежуць ад самаўрадаў, якія зьяўляюцца запраўднымі мясцовымі парлямэнтамі. Чарговыя выбары ў самаўрады ў Англіі вельмі часта выклікаюць безадкладны роспуск парлямэнту і вызначэньне новых выбараў. Гэта зусім зразумела. Бо-ж гэта значыць, што настрої і воля краю зьмяніліся, парлямэнт не адпавядае больш ім, дык траба ізноў „зьвярнуцца да народу", каб дакладна высьветліць яго волю шляхам новых выбараў...

У нас самаўрады далёка ня маюць яшчэ такіх карэньняў у краі, дык і такой сілы ў дзяржаве. Але-ж з гэтага якраз выплывае, што такую сілу і такое значэньне мы ўсе павінны сваім самаўрадам здабыць сваей працай і ўчасьцем у палітычным жыцьці дзяржавы, якое якраз найбольш узбірае сілы і напружаньня ў часе выбараў...

Якія-ж абавязкі ляжаць на самаўрадавых дзеячах, на прадстаўніках нашага сялянства ў самаўрадах у зьвязку з выбарамі? Скажуць, што кожны з іх належыць да тэй, ці іншай партыі, дык і сам ведае ад сваей партыі, якія абавязкі ляжаць на ім: ведама-ж, перад усім барацьба з праціўнікамі ўсімі магчымымі спосабамі.

Вось тутака мы і хочам сказаць некалькі слоў.

Самаўрадавыя дзеячы, як найбольш спакойныя, зраўнаважаныя грамадзка-гаспадарчай працай і адказнасьцю адзінкі на мясцох, могуць шмат добрага зрабіць якраз дзеля злагоджэньня партыйна-палітычнай барацьбы на мясцох, якая пры нашай слабай культурнасьці ды сьведамасьці мае нахіл прымаць вельмі няладныя, а часта проста шкадлівыя ўсяму мясцоваму грамадзянству і самаму пасьпеху выбараў формы.

Першым абавязкам такіх, стоючых вышэй вузкай партыйнасьці, дзеячоў самаўрада зьяўляецца **высьветленьне сваім выбаршчыкам канешнай патрэбы бязумоўнага ўчасьця ў выбарах. Няма горшага граху перад грамадзянствам, перад краем, перад дзяржавай, як ухіленьне ад спаўненьня свайго выбарнага абявязку.**

Паміма ўсяго іншага трэба ведаць, што па працэнту галасуючых звычайна судзяць аб палітычным узгадаваньні ды сьведамасьці насяленьня? Дык сорамна ды дрэнна будзе беларусу, які ўсьцяж дамагаецца сабе роўных правоў з палякам у Польшчы, калі ён у меншай меры, як паляк, выкарыстае тыя сваі правы, якія ён ужо мае. Тады ніхто не паверыць у яго грамадзка-палітычную дасьпеласьць.

Другім абязкам лепшых людзей на мясцох, папаўшых у самаўрады, гэта высьветляць выбаршчыкам усю важнасьць выбараў у парлямэнт і выбіраць ня пустых крыкуноў-палітыканаў, ня тых злосных дэмагогаў, якія абяцаюць народу ўсё, апрача сваей працы, якія выклікаюць у масах найгоршыя інстынкты ненавісьці, бо ня ўмеюць навучыць іх добрым, карысным, запраўдным спосабам, як палепшыць сваю долю, але тых, якія ўжо даказалі на дзеле, што ўмеюць працаваць сумленна, практычна, карысна, што маюць маральную вагу і павагу, пашану да сябе і паважаньне з боку грамадзянства. Бо-ж толькі такія пасылы здолеюць штосьці зрабіць і для мясцовага насяленьня і для дабра ўсяго Беларускага краю і для падняцьця сілы і дабрабыту ўсей Дзяржавы.

# Абавязак Беларускага Раднага.

У часе апошніх выбараў да гмінных самаўрадаў на тэрэне Заходняе Беларусі з пераважаючай беларускай большасьцю далё ка ня ў ва ўсіх гмінных радах беларускія прадстаўнікі прайшлі ў большасьці. Хто быў присутным на першым зьездзе радных і войтаў ў Вільні 6—7 лістапада мінуўшага года, той чуў, як шмат дэлегатаў жаліліся іменна на тое, што ў іх гмінах вынікі выбараў зусім не адпавядаюць запраўднаму працэнтнаму складу насяльніцтва. У некатарых гмінах, напрыклад, беларускае насельніцтва складае 80—90%, між тым як у гмінных радах лік беларускіх радных не дасягае і 60%, не гаворачы ўжо аб тым, што ў гмінных радах з беларускаю большасьцю выбраны войты не беларусы. Праўда пры гэтым указвалася на надужыцьця ў многіх выпадках мейсцовых уладаў пры выбарах, на адмову старостаў у зацьверджаньні кандыдатаў з беларусаў на войта на тым ці іншым прычынам. Але ў большасьці выпадкаў вінаваты былі і самі беларусы—выбаршчыкі.

Перш-на-перш вінаваты мы самі, што ня здолялі выкарыстаць усіх правоў, гарантаваных нам Конституцыяй і істнуючымі законамі. Прычынаў нашага паражэньня на выбарах у гмінныя самаўрады трэба шукаць у нас саміх, у нашай природнай пасыўнасьці, недаверры ў уласныя сілы і карысьць гмінных радаў для свайго Народу і Краю.

Праўда гэтаму можна знайсці вытлумачэньне ў мінуўшчыне. Папярэднія склады гмінных радаў, у большасьці сваей польскія, пры эндэцкім курсе ўрадавае палітыкі маглі вырабіць сярод беларускага насельніцтва толькі недаверра і варожасьць да сябе. Часы ўрадаваньня Станіслава Грабскага і Вітаса зрабілі тое, што беларускае насельніцтва адносілася з поўным недаверрам да мейсцовых самаўрадаў. Дзеля гэтага німа нічога дзіўнага, што беларускія народныя масы адносіліся зусім пасыўна да выбараў у гмінныя рады і да іх працы, ня чакаючы ад іх для сябе нічога добрага.

Ці трэба прыводзіць прыклады таго, што карыснае зрабілі папярэднія гмінныя і местовыя самаўрады для Народу? Усё гэта добра ведама кожнаму з беларусаў, адчуўшаму на уласным карку часы „Грабшчыны" і „Вітасаўшчыны": беларускія школы зачыніліся, расклад камунальных падаткаў і спагон недаімкаў рабіліся не раўнаважна і несправядліва; на адбудову зьнішчанага вайною краю не зьвярталіся абсалютна ніякай ўвагі, пры выдачы грашовых запамог з Дзяржаўнага Рольнага Ванку ў першую чаргу заспакаяліся патрэбы абшарнікаў; зямельная рэформа затрымалася на мёртвым пункце і г. д. Голас 80—90% мейсцовай беларускай масы заставаўся „голасам вапіюшчага ў пустыні". Беларус чуў сябе амаль ня чужым у сябе дома. Не права і не сам Народ, а паліцыйны комэндант і староста адыгрывалі рашаючую ролю у лёсе мейсцовага насельніцтва.

Але гэта было раней. Зусім што іншае мы бачым цяпер. Урад Маршалка Пілсудзкага даў магчымасьць нам самім узяць свой лёс у свае рукі. Што іншае, што мы ня здолелі выкарыстаць новую карысную для сябе палітычную сытуацыю; што гэты важны момэнт захапіў нас зьненацку, непадрыхтаванымі; што мы часта сваей „рэвалюцыйнасьцю" і варожым настроем у адносінах польскае дзяржаўнасьці натхнілі мейсцовыя ўлады нават з добраю воляю недаверрам да нас. І што з гэтае прычыны старосты часта не зацьвярджалі нашых кандыдатаў на войтаў, бачучы ў іх асобе запраўдных ці падазронных антыдзяржаўцаў.

Але пры ўсіх гэтых ад'емных баках мы ўсё-ж такі нарэшце маем у шмат гмінных радаў сваю большасьць. А гэта абставіна пры новым курсе палітыкі ўраду Маршалка Пілсудзкага дае нам у рукі вельмі і вельмі вялікі козыр. Усё далейшае залежыць ад саміх радных. І калі толькі яны акажуцца на вышыне свайго палажэньня і сумленна выканаюць свой грамадзянскі абавязак, дык могуць зрабіць вельмі шмат карыснага для свайго народу. Цяпер суцэльна ад іх саміх залёжыць зрабіць так, каб беларускі Народ пераканаўся ў карысьці гмінных самаўрадаў і на будучых выбарах да гмінных самаўрадаў ішоў валом.

Але зноў такі трэба агаварыцца, што гэта будзе дасягнута толькі тады, калі паны радныя апраўдаюць пакладзяныя на іх надзеі, калі яны зракуцца ўсякай палітыкі і вузкай партыйнасьці, паставіўшы над усім гэтым агульнае дабро і інтарэсы свайго народу і Краю. Палітыку і партыйнасьць трэба выкінуць з гмінных радаў, як разьбіваючыя адзінства. Усе беларускія радныя павінны стварыць адзіны беларускі фронт. Толькі тады яны здолеюць зрабіць што-небудзь рэальнае, абараніць свае інтарэсы. І ў той час, калі польскія радныя ў нашых гмінах стварылі адналіты фронт: польскі абшарнік ідзе плячо з плячом з польскім асаднікам і селянінам, - беларусы гэтак сама павінны злучыць свае рады, каб абараніць свае інтарэсы.

Нарэшце яшчэ раз падкрэсьліваем, што ў руках беларускіх радных знаходзіцца лёс усяго беларускага Народу. Сваей сумленнаю, зразумёлаю, адважнаю і энэргічнаю працаю яны могуць прынясьці вялікую карысьць свайму народу, як матар'яльную, гэтак і духоўную. Могуць зусім перарабіць яго псыхіку, пераўзгадаваць, разбудзіць ад вяковага сну і заахвоціць да больш энэргічнае грамадзкае працы. Пры гэтым толькі павінен быць захаваны цесны, прыязны кантакт

між радным і яго выбаршчыкамі. Толькі ў такім выпадку радныя будуць ведаць, што ім рабіць, да чаго імкнуцца і за што бароцца ў гмінных радах, будучы пэўнымі ў маральным падтрыманьні з боку народнае масы. А гэтае ўзаемнае падтрыманьне і давер'е значна аблягчыць іх працу на карысьць свайго Народу і Краю.

— *а.*

# ГАСПАДАРЧЫ АДДЗЕЛ.

## Сельска-гаспадарчыя і спажывецкія хаўрусы.

Куды цяпер толькі ні глянеш, усюды пабачыш беднасьць, усюды пачуеш нарэканьня на нехват грошай, якіх нашаму селяніну за невялікі працэнт пазычыць або зусім нельга, або вельмі цяжка. Наш селянін амаль што ніколі ня мае сваіх уласных грошай, адложаных, як кажуць, на чорную гадзіну, а калі здарыцца якое няшчасьце, дык нідзе не мае патрэбнага крэдыту.

Грошы наш селянін бярэ, галоўным чынам, з зямлі, але гаспадарка толькі тагды нешта дасьць, калі будзеш яе ўвесь час папраўляць, палепшаць, а на гэта патрэбны вольныя грошы. Апрача таго ў гаспадарцы патрэбны грошы і на іншыя рэчы: акалеў конь—трэба купіць новага; зьезьдзіўся плуг—трэба зьмяніць на новы і г. д. Дык нашаму селяніну, найчасьцей зусім беднаму, вельмі цяжка ўласнымі сіламі палепшыць гаспадарку. Вось тутака і ёсьць тое зачараванае кола, з якога, калі мы самі не парупімся, ніхто нас ня выцягне. Трэба заўсёды спадзявацца толькі на свае ўласныя сілы.

Найчасьцей бывае так, што чым бяднейшы гаспадар, чым балей патрэбны яму грошы, тым большы працэнт ён плаціць. І пакуль у вёсках і мястэчках ня будзе такіх інстытуцыяў, дзе-б наш селянін ці рамесьнік мог дастаць грошы за невялікі працэнт, датуль будзе бяда і ўсялякае палепшаньне ў гаспадарцы ці жнцьці будзе немагчымым. На цэлым сьвеце гэткія інстытуцыі значна пашыраны, закладаюцца яны самімі селянамі і работнікамі. Гэта — інстытуцыі дробнага крэдыту, крэдытныя хаўрусы, хаўрусныя крамы і г. д.

Ёсьць і ў нас падобныя касы, як касы Стэфчыка, рольнічыя кулкі і іншыя, але беларускае насельніцтва ня прымае ў іх амаль што ніякага ўдзелу праз тое, што яны знаходзяцца галоўным чынам у польскіх руках.

Зусім ня так цяжка нашым сялянам, калі добра возьмуцца за працу, нарыхтаваць сабе гэтак крэдыт, каб кожны з іх мог пазычыць грошы за якія небудзь 8—10% у год. Трэба толькі згоды некалькіх чалавек, каб заснаваць гэтакі хаўрус, які, калі добра і акуратна нарыхтованы, можа ратаваць сваіх сяброў ад ліхвяроў, а часта ставіць на ногі тых гаспадароў, у якіх гаспадарка амаль ня зусім зруйнавана праз даўгі. Абавязкам кожнага раднага ёсьць разтлумачыць сялянам, якія вялікія карысьці яны будуць мець, закладаючы гэтакія хаўрусныя інстытуцыі і наагул злучаючыся ў хаўрусы і прыймаючы жывы беспасрэдні ўдзел пры іх заснаваньні і далейшай працы.

Заграніцаю сяляне маюць вялікія ўраджаі, лепшыя за нашых у некалькі разоў, а галоўнае праз тое, што маюць рожныя хаўрусы ды супалкі, якія пазычаюць ім грошы, прадаюць іх дабро і купляюць патрэбныя прылады да гаспадаркі, і такім чынам могуць карыстаць з апошніх выдумак гаспадарскае навукі. Праз такія хаўрусы яны купляюць гаспадарчыя машыны і прылады, штучныя гнаі, насеньне і г. д., ды выгодна прадаюць сваё, ужо шмат лепшае, збожжа і тавары. Ведамая рэч, што каб у танейшым часе купіць жывёлу і ўсе гаспадарскія прылады, трэба так нарыхтаваць усю справу, каб на той час гаспадар заўсягды мог дастаць патрэбныя грошы.

Вельмі важная рэч для кожнага гаспадара, каб знайсьці грошы за малы працэнт. Але так сама яму вельмі залежыць на тым, каб мог танна купляць усё, што патрэбна ў хаце і каля хаты. Шмат пераплачвае ён лішніх залатовак, якія ідуць у рукі гандляроў. Шмат тавараў, пакуль з фабрыкі дойдзе да нас, праходзіць праз цэлы шэраг пасярэднікаў — перакупшчыкаў. З фабрыкі тавар ідзе перш-на-перш у рукі гуртаўшчыка, ад гуртаўшчыка ў краму, ад гэтуль ужо да нас. Ёсьць гэткія рэчы, што праходзяць праз 8—9 рук, асабліва так бывае з заграгічнымі таварамі. Такую самую дарогу праходзяць і тыя рэчы, што вырабляе наш гаспадар селянін. Гаспадар прадае збожжа вясковаму агэнту скупшчыку; той скупленае вязе да гуртаўшчыка, гуртаўшчык ужо пасылае цэлымі вагонамі ў вялікія гарады, дзе купляюць збожжа пекарні і г. д. Ведама, што кожны гандлюе дзеля таго, каб зарабіць. Дык вось падумайце толькі, колькі лішніх грошай павінен кожны з нас аддаць за тавар, каб зарабіў і фабрыкант і цэлае грамада гандляроў, бо кожны з пасярэднікаў на цану тавару накідае на колькі грошай, а то і залатовак. Гэтак цана расьце і расьце.

Так сама, калі няма блізка вёскі мястэчка, а значыць і крамы, дык часам селянін мусіць знарок ехаць за некалькі вёрст, каб нешта купіць. І вось, каб ня было гэтакіх клопатаў, трэба закладаць усюды хаўру-

сныя крамы, ці каапэратывы, дзе можна было-б купіць танна і ў добрым гатунку ўсё тое, што патрэбна ў жыцьці. Гэткія хаўрусныя крамы атрымоўваюць усе тавары або проста з фабрык, або ад вялікіх гуртаўшчыкоў, з складаў і г. д., і такім чынам, мінаючы перакупшчыкаў, маюць усё за меншыя грошы. Так сама крама можа прадаваць і свае сялянскія вырабы.

Ня кажучы аб усіх выгадах, якія дае хаўрусная крама сваім сябрам, яна шмат можа зрабіць і для грамадзкай справы. Ведамая рэч, што крама будзе даваць кожны год сякі-такі даход. Паводле статуту гэты даход дзяліцца між сябрамі, але з чыстага даходу можна што год аддаваць частку на культурныя патрэбы грамадзян: на бібліятэкі, чытэльні, школы і г. д. Дык калі крама пойдзе добра, калі ўсе хаўрусьнікі будуць аб ей рупіцца, тады будзе больш чыстага даходу і больш грошай можна будзе аддаваць на карысныя і неабходныя грамадзянскія справы. Калі мы прыглядзімся да працы заграднічных хаўрусных крамаў, то пабачым тую вялікую карысьць, якую прыносяць яны сваім сябрам. Напрыклад Рачдэльская хаўрусная крама ў Англіі, якая, колі закладалася ў 1844 годзе, мела ўсяго толькі некалькі дзесяткаў фунтаў штэрлінгаў (ангельскія грошы), праз некалькі гадоў ужо варочала мільёнамі. Цяпер яны ўжо маюць шмат уласных фабрык, будынкаў пад крамы, маюць свае ўласныя школы, бібліятэкі, робяць рожныя тэатры, вечарыны, арганізоўваюць лекцыі аб усім, што робіцца на сьвеце і наагул даюць шмат грошай на розныя культурныя і грамадзкія справы.

Праўда Рачдэль горад фабрычны, дзеля таго і хаўрусы, маючы шмат сяброў, могуць рабіць шмат карыснага.

А вось яшчэ адзін вельмі яскравы прыклад. У 1907 годзе ў Меншчыне быў каапэратыўны рух вельмі слабы. У Менску было толькі некалькі крамаў, але не гледзячы на рэвалюцыйную барацьбу і бальшавіцкую руйнуючую працу, каапэратыўны рух вельмі хутка пашыраўся і праз якіх небудзь два—тры гады быў ужо самаю саліднаю гандлёваю арганізацыяю у краі, якая цяпер робіць страшэнна вялікія абароты. Шмат яшчэ можна было-б даць прыкладаў, з якіх бы мы так сама ўбачылі, што сваімі ўласнымі сіламі, пры добрай ахвоце мы маглі-б многа зрабіць, каб нарыхтаваць сваё жыцьцё.

Перад сусьветнаю вайною, калі варункі жыцьця былі лепшыя, цікавасьць да грамадзка-гаспадарчага жыцьця была лепшая, як цяпер, і ўсюды ў нас ужо пачынаўся каапэратыўны рух, які меў бы аб'еднаць гаспадорскія інтарэсы людзей. Вайна разьбіла гэтыя культурныя ўстановы і цяпер толькі пачынае зварочвацца ўвага грамадзянства на неабходнасьць аб'яднаньня, каб падтрымаць свае гаспадарчыя інтарэсы, каб пазбавіцца ад эксплёатацыі.

Трэба вітаць гэты рух і падтрымоўваць яго. **Беларускія Радныя мусяць прылажыць усе сілы да закладаньня і пашырэньня рожных хаўрусных установаў!** Не адкладайма гэтай важнай справы згуртаваньня нашых сіл у хаўрусы і, не адкладаючы, бярэмся да гэтай справы!

Бо толькі тагды, калі аб'яднаемся ў хаўрусы, станем моцнымі і эканамічна ні ад каго незалежнымі. Апрача матэр'яльных выгад хаўрусы дадуць нам грамадзкае выхаваньне, навучаць нас жыць грамадзкім жыцьцём і забясьпечаць працу беларускай інтэлігенцыі.

## Гарэлачны промысл у Польшчы.

У сучасны момант, ня гледзячы на шырокае распаўсюджаньне пьянства, ўрад стараецца як можа яго пашырыць. Была паднята спроба вонкавага экспорту алькагольных напіткаў, як гэта сьведчыць польска-турэцкі дагавор, заключоны дзяржаўнай дырэкцыяй сьпіртавага манаполю. Дагавор гэты ня зьдзейсьніў мэтаў польскага ўраду. Турэцкі ўрад скампраміатаваў яго, тлумачачы цэлым радам надужыцьцяў. Скanстатаваўшы гэтыя факты, дайшло нават да судовага працэсу і такім чынам гарэлачны экспорт да Турцыі амаль не спыніўся. Польскі ўрад страціў на гэтым інтэрасе 7 мільёнаў турэцкіх лір.

Сьпіртавы манаполь у Польшчы трывае ўжо ад двох гадоў. Да гэтага часу гарэлачная прадукцыя была ў руках прыватных асоб, якія рабілі на гэтым добры інтэрас. Вартасьць-жа гарэлкі была зусім малая праз абніжаючыя яе ўбочныя прадукты фэрмэнтацыяў, як альдэгіды, фузьлявыя алеі, фурфураль, мінэральныя дамешкі і іншыя, што дакладна сьцьверджана ў студзені месяцы 1925 г. у часе прыняцьця фабрыкаў праз манаполь ад прыватных уласьнікаў.

Сучасны манаполь налічвае 2,521 земляробскіх гарэлачных заводаў і 85 прамысловых заводаў. Здольных да прадукцыі ёсьць 1,466 земляробскіх і 62 прамысловых.

Падставай прамысловасьцяй зьяўляецца тут бульба, якая дасьць найбольш працэнт алькаголю і зьяўляецца найбольш танным матэр'ялам.

У першым годзе манаполю выпрадукавана 625,995 гэкталітраў 100 градуснай гарэлкі або сьпірту, калі перад вайной прадукцыя гэтая была амаль ня у чатыры разы бальшай. Дык пасьля няўдалай спробы экспорту, ня гледзячы на гэта, прадукцыю насьць усё ж такі пашыраецца з разьлічэньнем на шырэйшае заспакаеньне запатрэбаваньня ў уласным краі.

Каб дасягнуць перадваеннага вырабу

і заспакоіць патрэбы краю, дырэкцыя сьпіртавага манаполю будуець новыя фабрыкі паводле навейшых вымаганьняў тэхнікі. Паводле абліченьняў тыповая такая фабрыка зможа вырабіць 50,000 гэкталітраў 100° сьпірту ў год, што, разьліўшы ў бутэлькі, дасьць 1,250,000 літраў 40° гарэлкі або 2,500,000 паўлітравых бутэляк.

У сучасным мамэнце галоўную колькасьць сьпірту прадукуюць Львоўскае, Паванскае і Паморскае ваяводзтвы. Вырабляюць і выпушчаюць ў прадажу звычайную водку моцы ў 40 градусаў, прыгатоўляную на сырой вадзе і 45° на вадзе дыстыляванай.

Найважнейшымі асяродкамі гарэлачнай прадукцыі ёсьць Варшава, Лодзь, Львоў, Познань і Кракаў, а ў іншых мейсцох толькі як рэктыфікацыйныя, або разьліўныя заводы. У 1926 г. усе рэктыфікацыі вытварылі 500,000 гэкталітраў 100° рэктыфікату. З агульнай колькасьці фабрыкацыі ў Польшчы 78% ідзець на заспакаеньне сьпіртавага голаду, 7 проц. на мэты прамыслова-тэхнічныя і 15 проц. на гаспадарскі ўжытак у форме дэнатурату, запраўленага труючымі субстанцыямі.

Іншыя дзяржавы, як Нямеччына — на мэты тэхнічныя зужывае 44 проц.. а Францыя—51 проц. агульнага ліку выпрадукаванага імі сьпірту. З гэтых састаўленьняў бачым, колькі водкі спажывае сам народ, які даець аграмадныя даходы дзяржаве. Сьцьверджана ў адным з паветаў Польшчы і то ў тым, дзе амаль што меньш спажываюць гарэлкі, як у іншых, што ў працягу году ўсе аплачываныя насяльніцтвам падаткі не перавышаюць трэцяй часьці даходу з водкі, які даець гэты павет.

Трэба зазначыць, што найбольшае запатрэбаваньне гарэлкі ёсьць на г. зв. Крэсах, дзе прадуктыўнасьць гарэлкі ёсьць якраз зьнікомая, а заспакоіваецца праз выключаныя прамысловыя цэнтры.

Беднасьць нашага сялянства якраз у гэтым і заключаецца, бо асягнутыя за гарэлку грошы з кішані селяніна, які прывык часта піць, ідуць у дзяржаўную касу манаполю.

*Т. К.*

---

## Падсьцілка для статку.

Падсьцілка для дамовага статку павінна адпавядаць двум наступным варункам: 1) павінна даць сухое і мягкае лагво для жывёлы, каб яна знаходзілася ў чыстаце і 2) пацсьцілка зьяўляецца вельмі паважнаю складоваю часткаю гноя.

Дзеля гэтага надсьцілка найперш павінна добра ўсачываць у сябе мокрыя часткі калу і мачы жывёлы, якія-бы лёгка раскладаліся і добра дзеялі на прагніваньне гною. Усім гэтым варункам найлепш здавальняе ржаная салома, пры варунку, што яна будзе сухая. Мокраю саломаю ніколі ня трэба карыстацца для падсьцілкі. У нас галоўным чынам ідзе на падсьцілку ржаная і аўсяная салома.

Калі саломы не хапае, дык для надсьцілкі можна карыстацца сухім торфам ці лісьцямі. Найгорэй мох ці іглы ад хвоі.

Кожная жывёла патрабуе рожную колькасьць падсьцілкі. Найменьш патрабуе авечка. У сярэднім трэба лічыць для аднэй штукі ў суткі:

для каня 2—3 кілаграма
„ каровы 3–5 „
„ целяці 2—3 „
„ сьвіні 2—2½ „
„ авечкі 0,2—0,4 к.

Трэба мець на ўвазе, што пры корме статку мокрым кормам трэба павялічваць лік падсьцілкі. Салому перад тым, як патрабляць для падсьцілкі, ляпей было-бы парэзаць на кароткія часткі, тады яна ляпей будзе ўсачываць жыжку і зьмешвацца з гноем.

Калі лічыць у сярэднім на адну штуку ў дзень 3 кіл. саломы, дык у год патрабуецца каля 60 пудоў. Зразумела, што па меры павялічэньня колькасьці статку адпаведна будзе павялічвацца і патрэбная колькасьць падсьцілкі. У выпадку недахваткі саломяннай падсьцілкі можна патрабляць торф. За граніцаю, асабліва ў Нямеччыне, на гэты від падсьцілкі ўжо даўно звернута ўвага. Там ёсьць спэцыяльныя фабрыкі, якія прыгатаўляюць з торфу падсьцілку. Аднэю з вартасьцяў тарфяной падсьцілкі служыць тое, што яна ўсачывае шмат жыжкі. Адна важная частка тарфяной падсьцілкі ўбірае ў сябе ад 12 да 26 частак гнойнай жыжкі, ў той час як адна частка саломы ўбірае толькі 3 часткі мокрацi. Апрача гэтага торф убірае ў сябе амоньяк, які, як ведама, выраблявцца з мачы і вельмі псуе паветра ў хляве і шкодзіць статку. Затым знойдзена, што тарфяная падсьцілка абараняе статак ад некатарых заразных хваробаў, як яшчура, дзеля таго, што торф мае ў сабе кіслату, якая ўбівае заразныя бацылы.

Торф бывае двох гатункаў: з высокіх мест і з нізкіх. Надсьцілка з другога дае больш карысных хімічных складкавых частак, чым другі. Ён мае ў сабе каля 2,5—4,5% азоту, ад 25 да 6% фосфару і некатарую колькасьць ізьвясьці. Назначаны для падсьцілкі торф павіен быць добра высушаны. Толькі тады ён можа адпавядаць свайму назначэньню. Ён не павінен мець больш 25% вады.

Спосаб прыгатаўленьня падсьцілкі з торфу просты: тарфяное мейсца трэба восеньню узарааць і заставіць у гэткім стане на ўсю зіму, каб даць магчымасьць перамерзьці. А вясною, калі ўжо прасохне, забаранаваць і потым толькі зьбіраць для падсьцілкі, патрабляючы толькі валакно. Для каня патрэбна торфяной падсьцілкі 3 кіл. у суткі, а для

рагаг-га статку ад 3 да 6 кіл. на штуку. Ляпей усяго слой торфу пакрываць тонкім слоем саломы, каб сахраніць жывёлу ў належачай чыстаце. На гэты род надсьцілкі належыць зьвярнуць асаблівую ўвагу дзеля чаго, што ў нас ёсьць шмат торфу.

*Т .В.*

## РЭАЛІЗАЦЫЯ ЗЯМЕЛЬНАЙ РЭФОРМЫ.

З той пары, як на чале Польскага Ураду стаў Маршалак Пілсудзкі, рэалізацыя зямельнаў рэформы пайшла ўперад прысьпешаным крокам. Ня гледзячы на цяжкую агульную палітычна-эканамічную сытуацыю як унутраную, гэтак і вонкавую, з якой яшчэ да гэтай пары ня выйшла зусім Польшча, у гэтай вобласьці за мінуўшы год было зроблена даволі шмат, аб чым яскрава сьведчаць наступныя лічбы.

Выдаткі з бюджэту на міністэрства зямельных рэформаў, без якіх немагчыма зямельная рэформа, ў апошні год удвоіліся ў параўнаньні з мінуўшым: у 1925 г. бюджэт гэты выносіў 55 міл. зл., а ў 1927 г. — 120 міл. зл.

У 1925 г. было пераведзена на хутары 68,118 дзесяцін, а ў 1927 г.—265,365 дз.

Яшчэ больш шпарка пайшла ліквідацыя сэрвітутаў: у 1925 г. было зьліквідавана 5,597 сэрвітутаў, выдзяліўшы сялянам 18,928 дзесяцін, у 1926 г.—12,406 сэрвітутаў (42,861 дз.) і ў 1927 г.—20,594 сэрв. (82,882 дз.).

## КААПЭРАТЫЎНЫ РУХ.

У канцы 1927 г. у Вільні адбылося гадавое сабраньне каапэратываў Віленскага і Наваградзкага ваяводстваў.

Як госьці прысутнымі былі ваяводы Віленскі і Наваградзкі, дырэктар Віленскага Аддзелу Дзяржаўнага Рольнічага Банку, Старшыня Акружнага Земскага Ураду і іншыя.

Па справаздаўчым рэфэратам уяўнілася, што каапэратыўны рух прадстаўляецца гэтак: касаў Стэфчыка маецца 153 з 32,200 сябраў і паявым фондам у 728,000 злотых і ўласным фондам у 280,000. Каапэратываў дзейных 41 і ў стадыі арганізацыі 79. Малачарні ў гэтым годзе выпусьцілі 3 мільёны 113 тысячаў літраў малака і 139 тысячаў кіло масла. Дастаўцам выплачана 619 тысячаў злотых. Спулдзельні яйкавыя хаця ірас-пачалі закуп яйкаў, але бязвідзімых вынікаў.

З іншых тыпаў спулдзельняў існуюць 2 дзеля перэробкі лёнавай саломы. Для гэтых спулдзельняў прадугляджываецца шырокі развой, бо народ цікавіцца гэтай справай, а яна сама дае добрыя даходы.

## АДБУДОВА НАШАГА КРАЮ.

Справа адбудовы рольных гаспадарак, зьнішчаных надчас вайны, ня гледзячы на зімовую пару, ідзе бязупынна.

У сучасны момант вядуцца работы па закончэньню глінабітных дамоў.

У 1928 годзе на тэрэне Віленскага ваяводзтва гэткіх дамоў будзе выбудавана 21. У першую чаргу будуць будавацца ў гмінах, дзе праходзіла франтовая паласа.

## ПРОЭКТ БУДОВЫ НОВАЙ ВУЗКА-КАЛЕЙНАЙ ЖАЛЕЗНАЙ ДАРОГІ.

Польскія газэты падаюць, што на вясну 1928 г. пачнецца будова вузка-калейнай ж. дарогі ў кірунку: Ганчары—Клецк—Несьвіж—Гарадзя. Праэкт прадугледжвае далейшы працяг гэтай дарогі да Наваградка, а потым да Наваельні.

## РАЛЬНІЦВА Ў НАШЫМ КРАІ.

Паводле даных Галоўнага Статычстычнага Ураду абшар засеяных азімых у 1927 годзе значна павялічыўся ў пароўнаньні з 1926 годам, а асабліва ў ваяводствах Віленскім, Наваградзкім і Палескім.

## Выхад на хутары.

28 і 24 лютага адбылося паседжаньне Окр. Земск. Камісіі, якая зацьвердзіла праэкт выхаду на хутары ў Дзісьненскім павеце ў в. Булашкі, фальфарку Маргі, в. Гэраўцы і Рагулы, павеце Сьвенцянскім у засьценку Мелюкі, в. Шакорышкі, Лаврынішкі і Петранішкі. Браслаўскім павеце — в. Антановцы, Латанішкі, в. Юст'янава, Полуйкі, Гавейкі, Кановалаўшчызна, Двемяны і Будзілы, а гэтак сама ў вёсцы Масюны Ашмянскага павету і Цэні II Віленска-Троцкага павету.

## АБ ВЫВАЗЕ ЯЕК ЗА ГРАНІЦУ.

Да гэтага часу гэты важны для нас экспорт быў гэтак занедбаны, што на заграні-чным рынку толькі з Эгіпту, дый з Марокка яйкі былі горшыя ад яяк з Польшчы.

Але цяпер у міністэрстве Рольніцтва зацікавіліся гэтаю справаю і ёсьць праэкт перадаць правы скупу і працажы яек за граніцу каапэратыўным арганізацыям і то толькі тым, якія маюць адпаведныя да гэтага прылады. А каб дапамагчы яйкавым спулдзельням рацыянальна апярыраваць гэтым гандлем Урад ў бліжэйшым часе прыступіць да будовы вялікай халадзільні ў Гдыні і малых халадзілень на ўсім тэрэне Польшчы.

## Гаспадарчы параднік.

### Што рабіць у сакавіку?

**ГАСПАДАРУ.** Быць зусім гатовым да вясьняных работ, а асабліва мець па нагатове збожжа для пасеву. Трэба як найлепш яго перавеяць. Калі магчыма, паараць зямлю, зьвязьці гной пад бульбу. Пачаць сеяць, дзе можна. Дзе суха, там баранаваць для пасеву канюшыны, а таксама зьбіраць каменьні з поля. Ягнят з лютага харатаць у канцы сакавіка. Сеяць капустную расаду. Скончыць у садзе ачыстку і пабелку дрэваў. Спушчаць ваду з дарог, робячы пратокі.

**ГАСПАДЫНІ.** У ясны дзень бяліць хату, вытрасаць пасьцелі і праветрываць. Маладым птушкам: куранятам, качанятам і іншым даваць яду з сухога хлеба, размочанага ў малаку (чатыры разы ў дзень). Курам, каб лепш нясьліся, трэба даваць пакрысе аўса ці ячменю.

**ПЧАЛЯРУ.** У першы ясны і цёплы дзень, калі па Рэамюру ў цені будзе 8 градусаў цяпліны, пчолы вылятаюць з вульлёў і першым аблётам збываюць з сябе бруд, які застаўся на іх за час зімовае пары. Калі пчолы ня вылятаюць з вульля, дык хухаць у дзірачкі, даўшы цяпла ў вулей, альбо стукаць па вульлю. У той час, калі пчолы гуч на адгукнуцца на стук у вулей, дык трэба пакінуць іх у спакоі. Лепш, калі пчолы ў добрым вульлі даўжэй ня робяць аблётаў. Той вулей, у якім няма знаку жыцьця, трэба адчыніць і аглядзець. Галодным пчолам, у якіх няма чаго есьці, трэба пакінуць адну ці дзьве рамкі з мёдам у сярэдзіне гнязда. Слабыя пчолы пасьля зімы ад недахвату корму можна выратаваць абагрэўшы іх у цёплай хаце. Разагрэўшы, калі яны ажывуць, трэба пакарміць і, калі выпадзе цёплы дзень, перагнаць да вульля. У час марозу трэба добра залажыць вочка, аблажыўшы вулей намочаным вадой мохам. Гнілыя вульлі трэба ўхіліць з пасекі. Сьнег, што каля вульлёў, трэба адкінуць у бок, альбо накідаць на яго саломы, каб хутчэй зьлез. Паставіць карыта з вадою і мохам на пасецы, можна пасаліць. Калі выпадаюць цёплыя дні, а здабытку для пчол яшчэ няма, дык паставіць у спакойным месцы прыправу з аўсянай мукі, каб даць пчолам працу і мець карысьць. Калі ёсьць 10 градусаў цяпліны, трэба абчышчаць ад бруду вулей.

# Самаўрадавая Хроніка.

### ПАСЕДЖАНЬНІ ГМІННЫХ РАДАЎ І ПАВЯТОВЫХ СОЙМІКАЎ.

У канцы 1927 года амаль ня ў ва ўсіх гмінах і паветах адбыліся паседжаньні новых Радных гмін і павятовых Соймікаў.

На паседжаньнях Соймікаў былі прысутнымі п. п. Старосты, якія ўсюды падкрэсьлівалі, што праца як Соймікаў, так і Гмінных Рад павінна быць апалітычная і выключна пасьвяшчоная культурна-гаспадарчай працы.

Новыя склады Соймікаў і Гмінных Рад падрабязна знаёміліся з праграмай работаў, накрэсьлянай на бюджэтны 1927 — 1928 г. і з іх паступовым выкананьнем, а гэтак сама разглядалася дзейнасьць паасобных аддзелаў, а ўласьне шарварачнага, санітарнага, асьветовага, грамадзкай апекі і рольнага.

Пры разглядзе бюджэту паміж іншым у Сіняўскай гміне і ў Сойміку Нясьвіжкім ухвалена высыгнаваньне грошаў на інтэрнат белар. гімназіі ў Клецку. Гародзкая гміна асыгнавала для Радашковіцкай гімназіі.

### З БРАСЛАУСКАГА ПАВЕТУ.

Браслаўскі Соймік прыслаў п. Ваяводзе Рачкевічы дэпэшу з ухвалай ад дня 21 лютага г. г., сьцьверджаючай ўсебаковы і выдатны поступ развою павету дзякуючы падтрыманьню дзярж. уладаў за апошнія ня поўныя 2 гады як у галіне гаспадарчай па адбудове паваеннага зьнішчэньня, гэтак сама і ў рольніча-гандлёвым жыцьці павету.

21 лютага 1928 г. адбылося паседжаньне Браслаўскага Сойміку.

Між іншымі справамі, як ухваленьне бюджэту на 1928-29 г. упаважненьне Павятовага „Wydziału“ на пяжыцкі і г. д., разглядалася справа будовы чугункі ў кірунку Друя — Варапаева. Кіраваў паседжаньнем п. староста Янушкевіч, які ў сваёй прамове накрэсьліў праграму працы на бягучы год і сьцьвердзіў між іншым, што ў сучасны момэнт крэдыт стаў лёгка доступным.

Што датычыць будовы чугункі Друя — Варапаева, дык урад дае больш, як 4 з паловай мільёны злотых, і староста просіў, каб Соймік ад сябе даў у натуры да 600 — 700 тысячаў.

Далей застаўся зацьверджаны праэкт будовы маста ў Друі вартасьцю больш, як 100 тысячаў.

Далей высьветлілася, што дзякуючы сучаснаму ўраду Маршалка Пілсудскага разьвіцьце павету ідзе шпаркім тэмпам і дае рэальныя надзеі на добрую недалёкую будучыню.

### З ДЗЕЙНАСЬЦІ ВІЛЕНСКА-ТРОЦКАГА СОЙМІКУ.

Wydział Powiatowy на паседжаньнях ад 31-I да 17-II-28 г. выпрацаваў бюджэт Павя-

товага Камунальнага Саюзу на 1928-29 год, а роўным чынам разглядзеў і зацьвердзіў гмінны бюджэт.

Важнейшыя пункты зацьверджаных гмінных бюджэтаў складаюць: 1) на асьвету 179 тысячаў зл., 2) на дарогі і пляцы публічныя — 94 тыс. зл.. 3) на бібліятэкі і народныя дамы — 6 тысячаў, 4) на ўтрыманьне шпіталяў — 32 тысячы, 5) на грамадзкую апеку — 86 тысячаў, 6) на падтрыманьне ральніцтва—37 тыс., 7) на пажарніцтва — 6 тыс., 8) на будову і капітальныя рэмонты школаў — 132 тыс., 9) на ўтрыманьне коннай пошты — 46 тысячаў.

### З Дзісьненскага павету.

У гэтых днях адбыўся зьезд бурмістраў, войтаў і сэкрэтароў Дзісьненскага павету, які праз п. Ваявды Рачкевіча выслаў прывітальныя дэпэшы п. Прэзыдэнту Рэспублікі і Маршалку Пілсудзкаму.

### З Лебедзеўскай гміны.

На паседжаньні Рады Лебедзеўскай гміны Маладэчанскага павету, якое адбылося 30 студзеня, асыгнавана 30,000 зл. на будову ў м. Лебедзеве электроўні.

### З Ракаўскай гміны.

На паседжаньні Рады м. Ракава Маладэчанскага пав., якое адбылося 27 студзеня, асыгнавана 12,000 зл. на будову электроўні, 40,000 —на будову скатабойні і 13 000—набэтонярню для вырабкі бэтонных пліток. Затым ухвалена заснаваць прытулак для бедных і бяздомных дзяцей з асыгнаваньнем на гэтую мэту 29,000 зл.

## Юрыдычныя парады.

### НОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ СУДОЎ.

Паводле дэкрэту ад 7 лютага г. г. з 1 студзеня 1929 г. на ўсёй Польшчы будзе ўведзена новая арганізацыя Судоў, а іменна: 1) Міравыя Суды (Sądy Pokoju), 2) Меставыя Суды (Grodzkie), 3) Апэляцыйныя і 4) Найвышэйшы Суд у Варшаве.

Міравы судзьдзя будзе вібірацца насельніцтвам гміны на 5 гадоў. Свае абавязкі ён будзе выконвываць бязплатна, а канцэлярыя будзе месьціцца пры гміне і на яе кошт. Міравым судзьдзёй можа быць выбраны толькі той, хто ўладае польскай мовай, ёсьць польскім грамадзянінам, скончыў ня менш 7 кл. сярэдняй школы і інш. Да кампэтэнцыі Міравых судзьдзей будуць належыць дробныя справы, вартасьць якіх не перавышае 200 злотых. На асуды Міравых судзьдзёў можна апеляваць у Местовыя Суды.

### АДКАЗЫ НА ПЫТАНЬНІ.

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці Гмінная Рада, альбо Рэвізыйная Камісія маюць права кантраляваць дзейнасьць солтыса ў справе сьцяганьня падаткаў.

**АДКАЗ:** Не маюць права, бо сьцяганьне падаткаў, — гэта функцыя солтыса, якая выконваецца ім на падставе п. 1 уст. 2 арт. 80 распараджэньня Komis. Gen. Z. W. z dn. 26 IX 1919 r. Dz. U. Z. C. Z. W. № 21 p. 215. На падставе якіх солтыс падлягае толькі войту, каторы і сам выконвае гэтыя функцыі на моцы działu A wstępu 2 art. 52 таго-ж самага распараджэньня. Гэтыя функцыі не належаць да Гміннай Рады і яе Ураду (art. 55 rozporzędzenia).

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці гмінная Рада мае права жадаць ад пісара, каб пратакаляваў яе ухвалы на беларускай мове і ці мае права жадаць, каб пісар ведаў беларускую мову і калі ня ведае, дык якія з гэтага могуць выйсьці консэквэнцыі.

**АДКАЗ:** art. 4 ust. z dnia 31 lipca 1924 r. (D. U. № 73 p. 724) пазваляе, каб побач з пратаколамі ў мове дзяржаўнай у нашым краі праводзіліся-бы абрады і пратаколы ў мове беларускай. Рашае аб гэтым Гмінная Рада і сэкрэтар тады мае абавязак весьці пратаколы ў 2-х мовах.

Калі сэкрэтар ня ведае беларускай мовы і ня хоча навучыцца ей, дык гэта можа быць прычынай да ягонага звальненьня, аднак гэта можа наступіць толькі пры захоўваньні art. 57 вышэй паказанага распараджэньня Камісара Гэнэральнага Z. W. z dnia 26 IX 1919 r.

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці можа быць Радны гміны солтысам?

**АДКАЗ:** art. art. 9, 10, 11, 12, і 18 rosp. K. G. Z. W. z dn. 25 VI 1919 r. (Dr. U. Z. C. W. № 7 p. 45) не пазбаўляюць солтысаў выбарчага права да Радаў Гмінных і дзеля гэтага солтыс можа быць Радным Гміны.

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці сябры Гміннага Ураду бяруць удзел у галасаваньні пры выбарах войта?

**АДКАЗ:** Не бяруць. Усіх сяброў Ураду выбіраюць толькі Радныя, а не сябры Ураду, якімі могуць быць і радныя і не радныя (art. 40 і 41 rozp. K. G. Z. W. z dn. 26 IX1919. Dz. U. Z. G. Z. W N 21 p. 217).

**ПЫТАНЬНЕ:** У выпадку толькі аднэй кандыдатуры на войта, ці можа быць галасаваньне адкрытае?

**АДКАЗ:** Не. Заўсёды павінна быць карткамі (art. 40 і 47 Posp. Komis. G. Z. W. z dn. 26 IX 1919 r.)

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці мае права войт, завешаны ў сваёй дзейнасьці, на палову сваей месячнае пэнсыі?

**АДКАЗ:** У гэтым выпадку няма пэўных высьненьняў. Аднак-жа, калі прытрымывац ца аналёгічна адпаведнай пастановы art. 58 ust. z dn. 17. II. 1922 r. (Dr. U. N 21 p. 165), і калі войт утрымываўся, а асабліва ягоная сямья толькі на войтаўскай пэнсыі, то Гмінная Рада можа вынясьці адпаведную пастанову і па зацьверджаньні яе Наглядными ўладамі правязьці ў выкананьне.

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці належыцца гміне якая небудзь плата за дастаўленьне судовых павестак у справах цывільных?

**АДКАЗ:** Належыцца і ўрад гміны праз Староство павінен зьвярнуцца з рахункам да Акружнага Суду (Rosp. Min. Sprawd. z dn. 31. III. 1923 r. Dz. U. N 39 p. 275.)

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці ўхвала Гміннай Рады і Гміннага Сходу аб замене фурманковай павіннасьці на аплаты ёсьць легальнай, ці яна вымагае зацьверджаньня Наглядными Ўладамі і на падставе якіх законаў?

**АДКАЗ:** У нашым краі можа гэта зрабіць Гмінная Рада на падставе art. 22 p. 5 rosp. Komis. G. Z. W. z dn. 26. IX. 1919., дзе Гм. Радзе даюцца правы заменяць павіннасьць натуральную на грашовую і наадварот. Ухвалу належыць прадставіць на зацьверджаньне Наглядных Уладаў.

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці належыць за выкананьне перапісі насельніцтва да галасаваньня якая небудзь плата таму, хто выконваў гэтую працу?

**АДКАЗ:** Калі гэта перапісь ляжала на абавязку Гміннага Ўраду, дык працоўнікі ўраду павінны гэта выканаць без спэцыяльнай аплаты, але калі праца гэтая была значнай і выконваляся не залежна ад нармальнай бюровай дзейнасьці, дык выконваючы працаўнік можа атрымаць ад Гміннай Рады за гэта плату.

**ПЫТАНЬНЕ:** Па колькі гадох практыкі можна спадзявацца атрымаць пасаду памоцніка гміннага сэкрэтара.

**АДКАЗ:** Статут этатаў, разасланы Minist. Spr. Wewn. пры пісьме з дня 30-VI 1925 № 4356/25 прадугледжывае, што памоцнікам сэкрэтара можа быць асоба, маючая гадавую практыку, аднак гэта ёсьць толькі вымаганьнем кваліфікацыйным, а не правам працоўніка на атрыманьне гэтай пасады, бо для гэтага трэба: 1) каб гэтая пасада была ў этаце адносьнай гміны і 2) каб яна была вольная.

**ПЫТАНЬНЕ:** 1) Ці можа Гміны Рады жадаць ад войта паказаць яму кнігу пратаколаў Гміннае Рады і акты загадаў наглядаючых уладаў і рабіць з іх сабе нататкі і ці войт мае права здавольніць гэта жаданьне?

2) і наагул ці мае права кожны жыхар гміны жадаць, каб яму паказалі кнігу пратаколаў Гміннае Рады, роўным чынам і іншыя афіцыяльныя акты з мэтаю азнакамленьня з імі ў гміннай канцэлярыі і ці абавязаны войт здавольніць гэтае жаданьне?

**АДКАЗ:** Кантралюе дзеяльнасьць войта Гмінная Рада, а дзеяльнасьць Рады і войта— агульны сход. Гмінная Рада можа на пасэджаньні патрэбаваць ад войта паказаць тыя ці іншыя акты і можа гэтыя акты разглядаць у канцэлярыі праз выдзеляную ад сябе камісію' Гэткімі комісіямі можа карыстацца і гміны сход. Кожны-ж паасобны жыхар можа разглядаць у канцэлярыі толькі тыя акты, якія на падставе абавязуючых загадаў павінны быць выложаны для агульнага разгляду, як бюджэтавы прэлімінар.

**ПЫТАНЬНЕ:** Ці абавязаны войт гміны спаганяць падаткі ад спадкаў і стэмлевыя (гэрбавыя) аплаты?

**АДКАЗ:** Гэтыя чыннасьці належаць да Скарбовых уладаў, органамі якіх зьяўляюцца сэквэстратары і ўрадаўцы. Гмінныя-ж органы (войт. солтыс) спаганяюць толькі дзяржаўныя падаткі, спаганяньне якіх выразна на іх узложана на падставе ust. 5 art. 43 уставы аб часовым урэгуляваньні камунальных фінансаў.

Затым войт і солтыс забявязаны памагаць скарбовым уладам пры выкананьні імі паасобных чыннасьцяў, зьвязаных з спасысканьнем дзяржаўных падаткаў, як пры ліцытацыі, хранеьньні рухомасьці платніка і інш.

# Тутэйшая хроніка.

**— Віцэ-прэм'ер Бартэль у Вільні.** У нядзелю 28 лютаге раніцою прыехаў з Варшавы да Вільні Віцэ-прэм'ер Бартэль На станцыю для спатканьня прыбыў Ваявода п. Рачкевіч. У першай гадзіне дня Віцэ-прэм'ер выглясіў у тэатры „Reduta" одчыт аб гаспадарчай сытуацыі Польскае Дзяржавы. На адчыце былі прысутнымі Віленскі Ваявода п. Рачкевіч, Навагрудзкі Ваявода п. Бечковіч, прэзыдыум местовае Рады з прэзыдэнтам места п. Фолеёўскім на чале і прадстаўнікі ва иных і цывільных уладаў.

А 6 г. вечара быў выданы прэзыдыумам места ў салёнах Афіцэрскага Касіна раўт у чэсьць Віцэ-прэм'ера.

А 10 г. вечара Віцэ-прэм'ер Бартэл выехаў з Вільні да Варшавы.

**— Працэс Грамады.** 23 лютага ў Віленскім Акружным Судзе распачаўся доўгачаканы працэс 56 сябраў бышай Грамады. Сярод абвінавачаных, якія сядзелі да суда ў турмах, знаходзяцца між іншым гэткія ўсім ведамыя асобы: б. пасл: В. Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, П. Валошын і Р. Мятла, дырэктар Віленскай Бел. Гімназіі Р. Астроўскі, Антон Луцкевіч, Ф. Акіньчыц, М. Бурсэвіч, Я. Шпаркевіч і г. д.

Сьведкаў паклікана каля 1000 чалавек.

Склад Суда: Прадсядацель віцэ старшыня Ак-

ружнага Суда п. А. Аўсянка, судзьдзі п. п. А. Элзевіч, А. Борэйка і запасны Бжозоўскі.

Абвінавачваюць падпракуроры п. п. Калапскі і Раўзэ.

Бароняць абвінавачаных адвакаты: Я. Бабяньскі, Дурач, Этынгэр з Варшавы і Абрамовіч, праф. Пятрусэвіч, Крыжаноўскі, Сенкавічанка, Залкінд, Мацяш, Прэйс, Романкевіч і адвакацкія аплікаты Варашынскі, Марціноўскі і Сольц. Апрача гэтага чакаюць прыезда з Варшавы адвакатаў Сьмяроўскага і Гонігвілы.

Суд працягнецца некалькі тыдняў. Дапрос першых сьведкаў распачнецца толькі 13 сакавіка.

**— Арышт б. пасла Ярэміча і Віняра.** 23 лютага па загаду пракурорскае ўлады быў арыштаваны і пасаджаны ў турму былышы пасол і першы кандыдат у Сойм па сьпіску № 18 ад беларусоў, лідэр сялянскага саюзу Ярэміч па абвінавачэньню з 129 арт. К. К. Аднайчасова быў арыштаваны і пасаджаны ў турму на Лукішках сябра Вызваленьня Віняр за арганізацыю ў Падбродзі некалькі дзён таму назад нападу на паліцыйны пастарунак.

**— Выключэньне б. пасла Шапэля і Карэцкага з Гмінных Радаў.** 22 лютага Гмінная Рада ў Лынтупах аднагалосна пастанавіла выключыць з ліку сваіх сябраў б. пасла Шапэля, які за антыдзяржаўную дзеяльнасьць арыштаваны і пасаджаны ў турму. Аналёгічную пастанову вынясла і Гмінная Рада ў Сьвіры, выключыўшы з Рады нядаўна арыштаванага Карэцкага.

**— Выхад А. Паўлюкевіча з усіх арганізацыяў.** У № 4 „Беларускага Слова" зьмешчана заява А. Паўлюкевіча наступнага зьместу;

„З прычыны стварыўшайся палітычнае сытуацыі ў зьвязку з выбарамі ў Сойм і Сэнат гэтым заяўляю, што з дня 16. II 28 г. я складаю з сябе кіраўнічыя становішчы ў Беларускай Нац. Радзе, Партыі і ў „Беларускай Хатцы" і выходжу з яе склада, а так сама і з сябраў Камітэта па справам Самаўрадаў. Аднайчасова абымаю ўсю выбарную акцыю на Навагрудчыне і выходжу зусім з палітычнае працы на Віленшчыне. А. Паўлюкевіч".

У зьвязку з гэтым кіраўніцтва палітычнаю і асьветнаю працаю на тэрэне Віленскага ваяводзтва перайшло да Т. Вернікоўскага.

**— Асуд б. пасла Рагулі.** У Навагрудзкім Акружным Судзе разглядалася справа б. пасла Рагулі з Сялянскага Саюзу, які цяпер выставіў сваю кандыдатуру да Сэнату па Навагрудзкаму вокругу па сьпіску блёку нац. меншасьцяў. Рагуля абвінавачваўся ў антыдзяржаўнай дзеяльнасьці. Суд па разглядзе справы і выслуханьні абаронцаў адваката п. Аляксюка і Чэрніхава, асудзіў Рагулю на 2 гады цяжкай турмы.

**— ТАЕМНАЕ ЗАМАРДАВАНЬНЕ ПАУНАМОЦНІКА № 13.** У Вільні каля магільніка Росса знойдзен быў 7 студзеня труп маладога мужчыны, меўшага на целе сьляды нажовых ран. У кішані яго былі знойдзены дакуманты на імя нейкага Нуты Штэйера, 22 г. Замардаваны быў сябрам камуністычнае прафсаюзы. ...... і паўнамоцнікам камуністычнага сьпіску ў Сойм № 13. Вядзецца энергічнае сьледзтва.

# УСЯЧЫНА.

## КОЛЬКІ АТРЫМЛІВАЮЦЬ ПАСЛЫ ПАРЛЯМЭНТАУ у РОЗНЫХ ДЗЯРЖАВАХ.

Найбольш атрымліваюць у Амэрыцы. Тамака кожны пасол мае ў год 10 тысячаў даляраў, ці ў месяц каля 6,700 злотых.

Англія плаціць у год 400 фунтаў штэрлінгаў, ці 1,500 злотых у месяц.

Францыя — 45 тысячаў франкаў у год, ці 1,400 зл. у месяц.

Нямеччына амаль тое самае, што і Францыя. Чэхія 1,200 зл. у месяц і столькі-ж і Вэнгрыя. Сэрбія і Баўгарыя плацяць толькі за дні паседжаньняў — першая па 50 зл. у дзень, а другая па 25 зл. у дзень. Італія — 600 зл. у месяц, Аўстрыя 850 зл. у месяц. Галяндыя аплачвае надта добра, па 70 зл. у дзень, Нарвэгія па 1,300 зл. у месяц. Швэцыя — па 80 зл. у дзень, але толькі за дні паседжаньняў. Данія — 1,100 зл. у месяц, Швэйцарыя — 50 зл. у дзень, Бэльгія 1,400 зл. у месяц і нарэшце Польшча — 1,000 зл у месяц.

## Падарожа на месяц.

У Вене (Аўстрыя) 12 лютага адбылося паседжаньне астранамічнага таварыства, на якім вяд ... фізык д-р Франць Гэфт зрабіў даклад аб фактычным зьдзейсьненьні думкі аб падарожжы на месяц у асобнай ракеце.

Карыстаючыся данымі сучаснае фізыкі і тэхнікі, дакладчык заявіў, што ён лічыць, што падайшоў момант, калі ад слоў трэба перайці да чынаў і папрабаваць рэальна зьдзейсьніць досьлед адсылкі ракеты на месяц.

Выкладыўшы плян пасылкі паступова трох ракетаў, з якіх першыя дзьве, вызначаныя для досьледаў ракетнае сувязі ў сфэры земляной атмасфэры і якія павінны вярнуцца назад на зямлю, прафэсар Гэфт разьвіў праэкт пасылкі трэцяе ракеты, якая павінна прайці ўсю даўжыню паміж зямлёй і месяцам. Але мусіць быць выслана з такім выраходаваньнем, каб папала на цёмную частку месяца і каб пры гэтым з зямлі былі-бы зроблены нагляды мамэнта пападаньня гэтай ракеты на месяц.

Далейшая стадыя — гэта пасылка людзяў у гэтых ракетах, робячых падарожу паміж паасобнымі часткамі сьвета і нарэшце, як увенчаньне ўсяго гэтага фантастычнага праэкту — пасылка людзяў у ракеце па месяц...

Увесь гэты даклад быў зроблены перад поўнай саляй вучоных спэцыялістаў, выклікаў іхнія вопляскі і не здаваўся ні фантастычным, ні маячным.

І ня дзіва, бо ўжо ў сучасны момэнт з меншым коштам, чым грамафон, можна паставіць у кожнай хаце радыё і слухаць, што робіцца на ўсім сьвеце.

## Навука і тэхніка.

Яшчэ некальні месяцаў таму назад ні каму ня прыйшло-бы ў галаву, што можна адначасова склікаць на паседжаньне сяброў грамадзянства з Лёндану і Нью Іорку, раздзеляных 6,000 кілямэтрамі і вясьці паседжаньне гэтак, як быццам яно адбываецца ў адным пакоі. І вось гэтая немагчымая рэч зьдзейсьнілася 16 лютага г. г. дзякуючы пасьпеху радыётэлефону.

Інстытут брытанскіх электротэхнікаў у Лёндане і інстытут амэрыканск.х электротэхнікаў у Нью-Іорку сабраліся на агульнае паседжаньне ў адну і тую гадзіну — ў Нью-Іорку (10 гадз. 30 мін.) і ў Лёндане (ў 2 гад, 30 м. па абедзе). У Нью-Іорку і Лёндане ў салях былі пастаўляны галосныя гаварыцялі і за 18, 250 франкаў тэлефонная адміністрацыя злучыла абедзьве салі праз Атлянтычны акеян.

У Нью-Іорку над вольным крэслам старшыні, як у кіне, паказаўся вобраз старшыні Джэмса Пэджа, які ў гэты час знаходзіўся ў Лёндане і побач з якім на 2 крэслах заступнікаў старшыні стаялі 2 галосна-моўцы.

Роўна а 2 гадз. 30 м. з аднага з гэтых гаварыцеляў пачуўся ясны, выразны голас: добрай раніцы, пане Пэдж!

У гэты час у Нью-Іорку была яшчэ раніца.

— Добры дзень, пане Гарардзі! — Адказаў Пэдж нявідзімаму вучасьніку паседжаньня і ў кароткай мове прывітаў „засядаўшых разам“ сяброў абоіх інстытутаў.

Закончыўшы прамову, ён даў слова заступніку старшыні ў Нью Іорку.

Абмен прамовамі адбыўся у працягу 15 мінут. Далей — пастаўленая на галасаваньне рэзалюцыя адначасова была прынятая ў Нью-Іорку і ў Лёндане і старшыня зачыніў паседжаньне.

Вось якія дзівосы робяцца цяпер на Божым сьвеце!

### ЭЛЕКТРЫЧНЫЯ АЭРАПЛЯНЫ.

З Дэтруа ў Амэрыцы паведамляюць, што палкоўнік Ліндбэрг і маёр Банф'е спробавалі новы аэра матор. Дасьведчаньне ўдалося. Матор дзеяў з хуткасьцю 30 абаротаў у сэкунду. Вынаходчык Гіндэрсо запэўняе, што матор можа дзеяць з адным зарадам у працягу 2,000 гадзін. Гэта новае ўдасканаленьне ў вобласьці авіяцыі мае вялізарную будучыну, калі прыняць пад увагу, што бэнзінавыя маторы на аэраплянах патрабавалі шмат бэнзыну і гэтым вельмі ўцяжалі апошнія.

### РАСКОПКІ ў ВІЛЬНІ.

У Вільні ад доўгага часу праводзяцца каналізацыйныя работы, пры якіх адкапываюцца часам рожныя рэчы, маючы сувязь з даўнішнімі будынкамі і культурай сярэднявекавай Вільны.

Рэчы гэтыя, як манэты, кафлі, часткі ўзбраеньня, дамовай гаспадаркі, знаходзяць у рожнай глыбіне зямлі, што разам з рэшткамі мураў сьведчаць аб гістарычнасьці Вільны.

Гэтк!м чынам 2 гады таму назад былі адкрыты рэшткі абронных мураў перад Востра-Брамай, а цяпер на рагу вуліц Віскупскай і Магдалены паказаліся ў значнай глыбіне гэтак сама часткі абронных мураў, касьцёлка разам з магільнікам і трумнамі і сьляды брамы Сьв. Магдалены, адзначанай на пляне фортыфікацыі Вільні ў 1648 годзе, выкананым вайсковым інж. Уладыслава IV. Гэтымі раскопамі заапекаваўся гэолёгічны аддзел Віленскага Унівэрсытэту.



Выдавец — Рэдактар Я. ЯРОШ. Кіраўнік рэдакцыі Г. КАНАПАЦКІ
Рэдакцыйная колегія: Б. Друцкі-Падбярэскі, Я. Шыбка і Г. Канапацкі.
Druk. J. Bajewskiego w Wilnie, ul. Mostowa 9.